Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

5 лістапада 1997 года
СЕРАДА
№ 64
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 1000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




**МЯСЦОВЫ**

## Што напісана фарбай...

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Некалькі дзён навідавоку гараджан красаваліся ўзоры насценнай народнай творчасці. Нехта невядомы надрапаў чырвонай фарбай лозунгі антыпрэзідэнцкага зместу і такім шляхам выказаў свае пачуцці да нашых ...рхоў. Успуджаныя ...улады загадалі хуценька знішчыць надпісы. Не вельмі дысцыплінаваныя падначаленыя запэцкалі іх у цэнтры горада, а ў аддаленых месцах пак...улі і зрабілі гэта толькі праз некалькі тыдняў.

На Доме Саветаў, відаць, спрабавалі змыць надпіс «Жыве Беларусь!», аднак не змаглі. Ён так і застаўся красавацца.

Замазалі ўсе надпісы кідкай аранжавай фарбай. Аматары выказваць свае пачуцці на сценах памалу адналюяюць ранейшыя лозунгі на ранейшых месцах.

## Гуляюць па гораду з ... абрэзам

**БАРАНАВІЧЫ.** Мінулі дзесяць дзён, калі работнікі міліцыі працавалі ва ўзмоцненым рэжыме. Нямала затрымана хуліганаў, раскрыта злачынстваў, папярэджана крадзяжоў.

А двое з абрэзамі пакуль гуляюць па гораду. На вуліцы 50 гадоў ВЛКСМ ля буйнага гаражнага масіву яны ў 21 гадзіну спынілі прахожага. Напужаўшы чалавека чорнымі маскамі і абрэзам, яны забралі ў яго грошы, залаты пацужок і пярсцёнкі, зніклі.

Удача ап'яняе рабаўнікоў. Праз некаторы час, напэўна, гэтыя ж самыя бандыты увайваліся ў краму «Буслік» фірмы «Бусел». Таксама ў масках і з абрэзам напужалі прадаўца, набралі спіртных напояў і прыхапілі 2.960.000 рублёў.

Не зявайце, будучыя ахвяры! Як бухгалтар адной камерцыйнай фірмы. Зайшоў у сталоўку лакаматыўнага дэпо, паклаў на стол сумку з 16.940.000 рублямі. Паеў, пайшоў. Апамятаўся на вуліцы. Вярнуўся — сумкі няма. Злодзеі сталі пільнымі ў адрозненне ад сумленных людзей.

● *ФОТАСЮЖЭТ*

## Школа будучыні — школа радасці

*Школа будучыні. Якой ёй быць? Якой уяўляе яе наша сённяшняе пакаленне школьнікаў? Адказаць на гэтыя пытанні сапраўды няпроста. Але вучні сярэдняй школы N3 г.Івацэвічы сваім праектам «Школа будучыні — школа радасці» бадай што адказалі на пастаўленыя пытанні. Такая школа будзе новай і па форме, і па зместу, дзе вучоба стане радаснай, цікавай і карыснай працай для кожнага хлопчыка і дзяўчынкі.*

*Са сваім праектам школьнікі ўдзельнічалі ў рэспубліканскім конкурсе, які ладзіў фонд Сораса, і занялі другое месца. З найбольш актыўных удзельнікаў гэтага праекта трэба адзначыць Таццяну Сніткo і Вераніку Крукоўскую (11 клас), Ганну Андрушкевіч і Вадзіма Бурвіна (9 класс), Сяргея Трынду (8 клас).*

*Кіраўнік праекта настаўніца выяўленчага мастацтва і чарчэння Людміла Вікенцьеўна Крукоўская працуе ў школе 12 гадоў. Свае веды і вопыт аддае любімай справе.*



*НА ЗДЫМКУ: Л. В. Крукоўская з макетам праекта «Школа будучыні — школа радасці».*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

## Два дні ў Літве

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Па запрашэнню прадстаўніцтва фонда Ф. Эберта рэдактар «Газеты для вас» Л. Цалуйка прымала ўдзел у семінары, які быў прысвечаны пытанням дэмакратызацыі грамадства і мясцовага самакіравання і праводзіўся ў Вільнюсе. Вядома, двухдзённае знаходжанне ў літоўскай сталіцы не можа прэтэндаваць на грунтоўнае знаёмства з працэсамі, якія адбываюцца ў нашых суседзяў, але ж удзельнікі семінару ўсё ж атрымалі аб іх пэўнае ўяўленне.

Літва рыхтуецца да выбараў прэзідэнта, і шматлікія партыі (а іх налічваецца 31) актывізавалі сваю дзейнасць у гэтым напрамку. Праводзяцца сходы, канферэнцыі, семінары. Сярод найбольш уплывовых — партыі кансерватараў, сялян-дэмакратаў, цэнтрыстаў, рабоча-дэмакратычная, маладых патрыётаў. Хто здолее перамагчы — пакажа час, але ўжо цяпер ясна, што літоўцы прагаласуюць за таго, хто ў стане забяспечыць эканамічнае развіццё краіны і сацыяльныя гарантыі. Цяпер у Літве аб'яўлена аб тым, што ўрад будзе вяртаць грашовыя ўклады, страчаныя насельніцтвам у пачатку 90-х гадоў. Наколькі гэта рэальна, таксама пакажа час, але гэта вельмі імпануе простым людзям.

Жыццё ж гэтых простых людзей, як і паўсюдна цяпер, напоўнена і клопатамі, і праблемамі. Зарплата рабочага сярэдняй кваліфікацыі складае 450—600 літаў (1 долар роўны 4 літам) ці 110 - 150 долараў. Інжынерна-тэхнічны работнік атрымлівае 150-200 долараў і вышэй, што паказвае на тэндэнцыю ацэньваць веды і адукацыю па заслугах.

Калгасаў у Літве, як вядома, няма. Але голаду, якім пры ўмове роспуску калгасаў пужаюць беларусаў, не назіраецца. Ідзе працэс фарміравання буйных землеўладальнікаў і кааператыўных абшчынаў, за якімі, як лічаць літоўцы, будучыня.

Цяпер у Літве пражывае 3 млн. 706,5 тысяч чалавек. Насельніцтва працягвае скарачацца, але не з-за смяротнасці: сёлета ў краіне памерла на 1701 чалавек меней, чым летась. Назіраецца невялікая эміграцыя: выехала з Літвы 1715 чалавек (у тым ліку 755 расіянаў, 210 літоўцаў, 165 яўрэяў, 131 беларус, 118 украінцаў.). Цікава, што большасць беларусаў з'ехала з Літвы не ў Беларусь, а ў Расію і на Захад.

Некалькі бытавых назіранняў. Магазіны і магазінчыкі амаль на кожным кроку, напоўнены таварамі па розных цэнах — для больш заможных пакупнікоў і менш. Цэны, напрыклад, на кансервы рыбныя, электрарадыётавары значна ніжэйшыя, чым у Беларусі.

На вакзалах у Вільнюсе нідзе (у адрозненне ад нашай сталіцы) не ўбачыш ні жабракоў, ні зборшчыкаў посуду, ні п'яных, ні бамжоў.

Адносіны да прыватнай уласнасці паважаныя і колькасць прадпрымальнікаў, уладальнікаў гандлёвых і вытворчых прадпрыемстваў расце. Нават аўтамабільнае абслугоўванне насельніцтва пастуова пераходзіць у прыватны сектар. Падатковая сістэма дазваляе людзям займець сваю справу.

● *7 ЛІСТАПАДА — ДЗЕНЬ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ*

## Свята са слязамі на вачах

7 лістапада. У кожнага чалавека гэты дзень выклікае пэўныя пачуцці і эмоцыі. Для некага гэта свята, для некага — дзень памінання, для некага гэтая дата нічога не азначае. Асабіста для мяне гэты дзень выклікае пачуццё жалю да тых, хто загінуў, каго закатавалі, каго зламалі за вялікую ідэю стагоддзя. Тым , хто адзначае гэты дзень, хочацца задаць пытанне: «Што вы святкуеце і каму ўскладваеце кветкі?» Святкуеце дзяржаўны пераварот, масавыя забойствы, братазабойчыя вайны, рэпрэсіі, зламаныя лёсы ў псіхушках, збіццё дубінкамі за слова праўды і права думаць па-іншаму. Кладзяце кветкі да падножжа чалавеку, які дзеля ўласнай выгады, дасягнення абсалютнай улады раздраў дзяржаўнасць, заліў крывёю ўсё навокал. Толькі ў чалавека маральна сапсаванага гэтая дата можа выклікаць радасць.

Паразважайце пра тое, што было і што адбываецца сёння. Як шмат агульнага: зноўку нам падсоўваюць правадыра — вось той, хто вывядзе нас на дарогу шчасця. Толькі жалезнай рукой можна гэта зрабіць, толькі слухаючыся правадыра і крочачы за ім. Усё гэта было і пачынаецца па другому кругу.

70 гадоў любыя, выдатныя правадыры, верныя ленінцы вялі буйнейшую краіну свету ў светлую будучыню. Вялі краіну, меўшую незлічоныя прыродныя багацці і буйнейшыя пасяўныя плошчы. Па ўзроўню жыцця людзей, па правах, якія яны маюць, нарэшце зраўняліся з Афрыкай. Шукалі і мільёнамі знішчалі ворагаў народа. Разбурылі і абрабавалі гэту краіну. Пакаленне за пакаленнем цярпліва чакаюць і спадзяюцца на лепшае. Наша краіна, ідучая назад, па сутнасці застаецца камуністычным раем для прайдзісветаў і бяспраўным пеклам для працаўнікоў. Няўжо ўсё гэта і ёсць падстава, каб святкаваць?

Я лічу, што ў гэты дзень нам трэба папрасіць прабачэння ў Бога за справы нашых дзядоў і прадзедаў. Каб такое больш не паўтарылася. Хай гэты дзень стане днём памінання нявінна загінуўшых, пакалечаных з-за бязглуздых ідэй рознага кшталту правадыроў.

Паглядзіце, у самой Расіі, дзе Кастрычніцкая рэвалюцыя нарадзілася, гэтая дата не святкуецца. 7 лістапада атрымала новую назву — Дзень згоды і прымірэння. Такое рашэнне сапраўды выпакутавана краінай і яе народам, хоць значная частка насельніцтва па-ранейшаму марыць аб СССР. Камуністы быццам не заўважаюць трагічнай сітуацыі: на савецкім адмоўным вопыце вывучыўся ўвесь цывілізаваны свет. Акрамя саміх расіян. Новая назва свята як бы гаворыць: ідэі агульнанацыянальнай згоды, узаемаразумення і супрацоўніцтва ў імя росквіту Айчыны — найбольш важныя і галоўныя для краіны.

**В. МЯГКІ.**
*г. Івацэвічы.*






## ШАНОЎНЫЯ ПРЫХІЛЬНІКІ "ГАЗЕТЫ ДЛЯ ВАС"!

**Пачалася новая падпісная кампанія. Спадзяёмся, што ў першым квартале 1998 года мы застанёмся шчырымі сябрамі. Кошт на наша выданне наступны: на 1 месяц - 8000 рублёў, на 2 месяцы - 16000, на тры месяцы - 24 тысячы рублёў. Індэкс 63834. "Газета для вас" піша пра ўсё тое, што адбываецца ў рэальным жыцці, без аглядкі на афіцыйны пункт гледжання. Заставайцеся з намі!**

● З ЗАЛЫ СУДА

*Як мы паведамлялі ўжо, адбылося выязное пасяджэнне Баранавіцкага раённага суда, дзе разглядалася крымінальная справа ў дачыненні загадчыка траўматалагічнага аддзялення Івацэвіцкай цэнтральнай раённай бальніцы В. Д. Барэйшы і траўматолага гэтага ж аддзялення А. М. Чуманевіча. Урачы асуджаны за хабар. Сёння мы змяшчаем матэрыял аб падрабязнасцях гэтага судовага працэсу.*




**1.**

Словы, вынесеныя ў загаловак, сказаў у першы дзень суда В. Барэйша. Што ж такое процівазаконнае зрабіў урач-траўматолаг (ён жа і загадчык аддзялення), што прызнаў сваю віну? На гэта пытанне, вядома, і павінен быў даць адказ суд.

У спісе сведкаў па справе В. Барэйшы і А. Чуманевіча значылася 32 чалавекі. На судзе далі свае паказанні 19 грамадзян. Усе яны ў той ці іншай меры пацвердзілі, што давалі ўрачам хабар (у беларусіх рублях, амерыканскіх доларах, нямецкіх марках). За што? У большасці, як паказалі сведкі, за розныя металічныя спіцы, стрыжні, спецыяльныя балты, якія ўстаўляюцца ў косці пры аперацыях. І зноў жа ўзнікае пытанне: ці была наогул такая неабходнасць, каб хворыя давалі грошы, словам, плацілі за штосьці? Аказваецца, па-рознаму можна тлумачыць гэтую плату, па-рознаму можна называць хабар, а сутнасць застаецца той жа: адны намякаюць ці патрабуюць і бяруць, другія (з агаворкай – куды ж дзенешся?) з-пад зямлі дастаюць грошы і даюць. І, бадай, ніхто не здзіўляўся. Так савецкая ўлада навучыла і прывучыла нашых людзей. І гэта лічылася нармальнай з'явай, хоць афіцыйна нібыта асуджалася.

**2.**

І не ад добрага жыцця бралі і бяруць хабар не толькі медыкі. На мой погляд, калі б тыя ж урачы жылі ў дастатку і поўным забеспячэнні, наўрад ці хто б з іх пакрывіў душой і ўзяў бы тыя мазольныя грошыкі, якіх і так не хапае ў людзей на пражыццё.

Аднойчы я размаўляў з беларусамі, якія жывуць у ЗША і прыехалі наведаць сваіх старых бацькоў. З аповеду гаспадыні запомніўся такі эпізод.

Неяк у суботні дзень дзеці гулялі ў двары. Пяцігадовы хлопчык выскачыў на вуліцу і быў збіты матацыклам. З пераломам нагі яго завезлі ў прыватную бальніцу (а іх там большасць), дзе зрабілі аперацыю, наклалі шыны, словам лячэнне пачалося. І за яго, згодна з амерыканскім укладам жыцця, бацькі заплацілі грошы ў касу бальніцы.

Калі сын ужо быў дома, маці яго вырашыла аддзячыць урача, што выхадзіў яе нашчадка. Канверт з 200 доларамі паклала на стол перад траўматолагам.

— Ведаеце, — гаварыла са здзіўленнем жанчына, — іхні медык не ведае, што такое хабар. Я ледзь не трапіла ў паліцыю. А на развітанне ўрач мне сказаў: сваім учынкам вы абражаеце не толькі гонар і годнасць мяне як чалавека, а ў першую чаргу як медыка, прафесіянала, які даў клятву бескарысліва служыць людзям. Я ў падачках не маю патрэбы. Я – чалавек забяспечаны...

Вось іменна – забяспечаны. А такі чалавек, як падказвае само жыццё, не можа пакваліцца на чужыя капейкі.

Дык гэта ў іх, а не ў нас, скажаце вы. У іх, маецца на ўвазе – у праклятых капіталістаў, як яшчэ сёння талдычаць па беларускім радыё і тэлебачанні. Як бы там ні было, а многаму нам трэба ў іх вучыцца. У гэтым не толькі мяне, але і іншых, пераканаў судовы працэс па справе В. Барэйшы і А. Чуманевіча.

**3.**

Калі грамадзянін асуджаны, яго месца, як вядома, за турэмнымі кратамі. Ён прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынства. Тут ужо не можа быць ніякіх прэтэнзій. А калі не асуджаны, а толькі падазраецца ў нейкім злачынстве і ён не з'яўляецца небяспечным для акружаючых, значыць такі грамадзянін павінен быць на свабодзе. А. Чуманевіч да суда знаходзіўся дома, працаваў, а вось В. Барэйша – сем месяцаў быў у ізалятары. Я не разумею такога падыходу, такіх адносін правасуддзя і дзяржавы да сваіх грамадзян. Яшчэ віна не даказана, а ты сядзі, гібей, закрыты ад усяго і ўсіх, нібы ты ўжо злачынца. Таму сем месяцаў чакання для таго ж В. Барэйшы ператварылася ў сем гадоў маральнага выпрабавання, калі калечыцца душа чалавечая, якую потым прывесці ў нармальны стан удаецца не часта.

**4.**

Што ж тычыцца хабарніцтва, пра якое зайшла гаворка з самага пачатку, то звернемся да фактаў, да паказанняў саміх сведкаў, якія мелі адносіны да івацэвіцкіх урачоў-траўматолагаў. Вясковы жыхар Міхаіл Г. папаў у траўматалогію пасля дарожнага здарэння. Яго падбілі матацыклам. Гэта было ў лістападзе мінулага года. Лячыў хворага ўрач Барэйша. Каб выратаваць нагу, патрэбна была аперацыя.

Міхаіл Г. на судзе не прысутнічаў, захварэў. А за сведку быў ягоны бацька, які раней лячыўся ў траўматалогіі і добра ведаў загадчыка аддзялення.

— Доктар сказаў, што на аперацыю патрэбна 30 долараў, — гаварыў бацька Міхаіла. – Не хапае нейкага металу. Я адразу згадзіўся, бо трэба ж ратаваць сына. Міхаілу я сказаў, што даў доктару 50 нямецкіх марак. Аперацыя прайшла ўдала. Сын застаўся задаволены.

Як паказала следства, той «метал», які нібыта трэба было набываць за грошы ці свой ставіць, быў у наяўнасці ў раённай бальніцы, і ніякай аплаты не патрабавалася. Вядома, што хворы пра гэта нічога не ведаў і не мог ведаць. Такімі звесткамі валодалі ўрачы.

Як жа падсудны В. Барэйша зрэагаваў на гэты факт з маркамі? Ніякіх адгаворак. 50 нямецкіх марак браў, перадаў яму бацька хворага. А вось дзе канкрэтна перадаў — не запомніў. Але ж гэта ўжо не мела істотнага значэння.

**5.**

А вось з хворым К. урач В. Барэйша не знайшоў агульнай мовы. Летась, у кастрычніку, гэтаму пацыенту была зроблена аперацыя на руцэ. Але косці не зрасталіся, рука пачала пухнуць. Стан здароўя пагаршаўся. Зноў патрабавалася тэрміновая аперацыя. В. Барэйша заявіў, што толькі 50 долараў выратуюць пацыента. «Будуць зялёныя – будзе рука», — напомніў урач свайму хвораму. Аднак хворы К. адмовіўся даваць хабар. Тады В. Барэйша выпісаў яго з бальніцы і накіраваў у Брэст з той нагоды, што тут, у райцэнтры, маўляў, няма ўмоў для патрэбнай аперацыі.

У Брэсце ж, наадварот, пацвердзілі, што і другую аперацыю хвораму патрэбна было хутчэй рабіць на месцы, а не ганяць чалавека ў няблізкі свет. Руку прааперыравалі ў той жа дзень і нагадалі, што яшчэ б суткі прамарудзілі і прыйшлося б адразаць яе.

Думаецца, ведаў пра стан свайго пацыента ўрач В. Барэйша, але імкненне атрымаць хабар за паслугу (г. зн. за аперацыю) перамагло. Ён ужо жыў па законе: ты – мне, я – табе.

**6.**

Дарэчы, амаль усе былыя хворыя (а на судзе, як сведкі), даючы грошы ўрачам, падкрэслівалі, што, па словах саміх медыкаў, гэтыя рублі, долары, маркі патрэбны былі для набыцця так званага металу, што выкарыстоўваецца пры аперацыях (спіцы, стрыжні, балты і г. д.). Як паказала судовае следства, такія матэрыялы меліся ў бальніцы, таму адпадала патрэба іх купляць. Дарэчы, ніхто з адміністрацыі раённай лячэбнай установы не кантраляваў урачоў, не вёўся дакладны ўлік узятага «металу». А гэта ўрэшце-рэшт прывяло да махлярства, да вымагання грошай з хворых пад выглядам набыцця неабходных металічных канструкцый. Судом даказана, што сапраўды так было ў больш чым дзесяці выпадках, калі шляхам вымагання хабар пападаў у рукі медыкаў.

**7.**

Праўда, не па ўсіх выпадках падсудныя поўнасцю згаджаліся з паказаннямі сведак. Але гэта ўжо справа іх сумлення. Напрыклад, урач Чуманевіч віну сваю прызнаў толькі часткова. А справа была так. У канцы мая мінулага года ў траўматалагічнае аддзяленне паступіў грамадзянін М. з траўмай правай рукі. Лячыў хворага В. Барэйша. Пасля курса лячэння яго пацыента выпісалі. У пачатку жніўня таго ж года грамадзянін М. зноў звярнуўся па дапамогу ў бальніцу з той жа траўмай правай рукі. Урач А. Чуманевіч, агледзеўшы хворага, сказаў, што патрэбна аперацыя. А для яе правядзення неабходны спецыяльныя металічныя стрыжні для злучэння касцей. Якраз патрэбнага «металу», па словах урача А. Чуманевіча, у бальніцы не было, а яму асабіста з Мінска прывезлі такія стрыжні. Каштуюць яны прыкладна 50 долараў.

— Я перадаў грошы Чуманевічу сам, у бальніцы, на пасту медсястры. Нікога не было, акрамя нас дваіх. Урач грошы не вымагаў, не патрабаваў, але сказаў, што аперацыю нельга праводзіць без тых спіц і стрыжняў...

Так сказаў на судзе былы хворы М., якога апераваў урач А. Чуманевіч. Як і іншыя хворыя траўматалагічнага аддзялення, грамадзянін М. не ведаў, што той метал, а гэта на медыцынскай мове стрыжні Багданава, быў тым часам у раённай бальніцы. І ўрач Чуманевіч нікуды не звяртаўся, нідзе не купляў той «метал», а ўзяў там, дзе заўсёды браў – у сваім жа аддзяленні, дзе працаваў. Гэта ўстаноўлена папярэднім следствам і даказана судом.

**8.**

А што ж суддзі, пракурор, адвакаты? Усе яны былі на працэсе ў поўным складзе. Вось толькі грамадскія абаронцы адсутнічалі. Відаць, палічылі справу падсудных не зусім сур'ёзнай (а мо – чыстай?).

І пракурор, і адвакаты, якія выступілі на судзе, выказалі свае меркаванні і прапановы, зыходзячы не толькі са зводу законаў Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, але і з агульначалавечых паняццяў і ўзаемаадносін.

Пракурор, напрыклад, падкрэсліў, што дзеянні абодвух падсудных падпадаюць пад артыкул 169, частку другую Крымінальнага кодэкса. Гэта знайшло пацверджанне ў ходзе судовага следства: атрыманне хабару, вымаганне, выкарыстанне свайго службовага становішча для асабістай нажывы. Акрамя розных тэрмінаў пазбаўлення волі, было прапанавана суду вынесці рашэнне аб пазбаўленні падсудных права пяць гадоў займацца ўрачэбнай дзейнасцю пасля адбыцця тэрміну пакарання. Суд не згадзіўся з такой прапановай.

Адвакат падсуднага В. Барэйшы, робячы спасылкі на розныя артыкулы Крымінальнага кодэкса, прапанаваў суду прымяніць да яго падабароннага такую меру пакарання як прымусовыя работы, улічваючы сямейнае становішча (жонка, двое дзяцей) і бездакорную шматгадовую працу.

Адвакат падсуднага А. Чуманевіча, спасылаючыся на закон і на немагчымасць даказаць, што іменна ў той момант былі спецыяльныя спіцы ў бальніцы патрэбнага памеру і што менавіта яны ўстаўлены ў час аперацыі хвораму, прапанавала суду па справе свайго падабароннага вынесці апраўдальны прыгавор.

**9.**

Апошняе слова даецца падсудным.

В. Барэйша: «Я раскайваюся ў зробленым і павінен панесці пакаранне. Просьба ўлічыць, што ў мяне сям'я, двое дзяцей. Прашу прабачэння ў суда».

А. Чуманевіч, звяртаючыся да суда, сказаў: «Я веру ў ваш прафесіяналізм. Я стараўся працаваць сумленна і ніколі не браў хабару».

Нарэшце, абвяшчаецца прыгавор.

В. Барэйша асуджаны на пяць гадоў турэмнага зняволення з утрыманнем у калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці (артыкул 169-ы, частка II Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь). Прыменены артыкул і яго другая частка (неаднаразовае атрыманне хабару, вымаганне, выкарыстанне службовага становішча для асабістай нажывы) давала права суду пазбавіць падсуднага волі тэрмінам ад 5 да 15 гадоў. Па ўсім відаць, што суд усё-такі ўлічыў раскаянне В. Барэйшы, яго сямейнае становішча і просьбу адваката аб змякчэнні прыгавора.

Што ж тычыцца ўрача А. Чуманевіча, то яго асуджэнне толькі за адзін, як сказала адвакат, грунтоўна не даказаны факт атрымання хабару, выглядае больш чым дзіўным. Таму што гэтага ад суда не чакаў ніхто, нават сам падсудны, які да канца вераў у справядлівасць прадстаўнікоў Феміды.

У дачыненні да А. Чуманевіча прыменены артыкул 169-ы, частка І Крымінальнага кодэкса нашай рэспублікі (атрыманне хабару шляхам вымагання, выкарыстанне службовага становішча для асабістай нажывы), якая прадугледжвае тэрмін пакарання да 10 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Суд, не даказаўшы віны А. Чуманевіча па другім факце атрымання хабару і сканцэнтраваўшы сваю ўвагу толькі на першым, усё ж улічыў просьбы і заявы А. Чуманевіча, а таксама адваката падсуднага і вызначыў меру пакарання: адзін год турэмнага зняволення з канфіскацыяй маёмасці.

Але ж, як ужо было сказана, засталіся сумненні ў даставернасці доказаў нават па першым факце атрымання хабару А. Чуманевічам. У цывілізаваным свеце ў такіх выпадках суд, як гаворыцца, разводзіць рукамі, а падсуднаму даецца воля. У нас таксама існуе паняцце прэзумпцыі невінаватасці, але ж, як бы гэта мовіць, рэвалюцыйнае пачуццё прадчування ў пэўным грамадзяніне злачынцы перамагае. 80 гадоў пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі хіба прайшлі дарма?!

**10.**

Што ж далей? Асуджаныя маюць права падаць скаргу ў вышэйшую судовую інстанцыю для перагляду іх спраў. І калі ёсць хоць нейкае сумненне, няпоўная даказанасць, як у справе А. Чуманевіча, трэба гэта абавязкова выкарыстаць.

Праўда і толькі праўда. Гэтае судовае патрабаванне наколькі старое, настолькі і актуальнае, надзённае. Дабіцца праўды-матухны менавіта праз суд удаецца самым настойлівым, моцным і маральна, і фізічна. І тым даражэй такая праўда, якая адкрывае вочы тым, хто згубіў веру ў справядлівасць, хто безнадзейна апусціў рукі і не спадзяецца на нейкае цуда. А праўда – гэта сапраўды магічнае цуда. Ці спрабуем мы жыць па праўдзе, па закону? Адказаць адназначна на пастаўленае пытанне нельга. Здаецца, і хабарніцтва, як з'ява, і яго носьбіты асуджаны, а вось ні маральнага задавальнення, ні ўпэўненасці ва ўсталяванні справядлівасці як не было, так і няма...

*С. КАЖАДУБ.*

# Верховный Совет Беларуси 13 созыва предпринимает вторую попытку объявить импичмент президенту

*В Республике Беларусь все еще параллельно работают два депутатских корпуса. Верховный Совет Беларуси 13-го созыва почти год находится в некоем двусмысленном положении. С одной стороны, его уже, вроде, как бы и нет; с другой, — именно его признают единственным легитимным законодательным органом в Беларуси многие страны и международные организации. Как известно, ВС 13-го созыва был фактически ликвидирован сразу же после объявления итогов ноябрьского (1996 года) референдума, и вместо него было образовано Национальное собрание. Правда, оппозиция утверждает, что роспуск «старого» парламента произошел с грубейшим нарушением законности — мол, даже если признать легитимными результаты того плебисцита, то на «ликвидационном» собрании за роспуск ВС должно было проголосовать не менее 135 человек, то есть две трети от тогдашнего состава парламента. Однако, и это общеизвестно, на том собрании такое количество депутатов даже не присутствовало.*

Таким образом, Верховный Совет 13 созыва де-юре продолжает существовать. Но никуда не денешься от того факта, что 110 его членов работают в нижней палате Национального собрания – Палате представителей. Причем все эти 110 его человек собственноручно написали заявления о своем желании работать в новом законодательном органе. Говорят, что немного позже еще около четырех десятков депутатов написали подобные же заявления, но им просто не хватило мест в Палате. Правда, стольже известно, что еще позднее некоторые депутаты (к примеру, Владимир Нистюк, Владимир Новосяд) отказались от тех покаянных обращений. Поэтому сегодня можно реально говорить о том, что ВС 13 созыва покинули лишь те 110 (после убийства Евгения Миколуцкого – 109) человек, которые сейчас трудятся в Палате представителей.

Гордиев узел двоевластия фактически парализовал работу оставшихся верными Конституции 1994 года депутатов. Они (порядка 50 человек) из-за отсутствия кворума, по-прежнему исчисляемого с 198 человек, не могут принимать легитимные решения, проводят не сессии, а рабочие собрания. Легитимным и способным принимать легитимные решения органом остается Президиум Верховного Совета, шесть членов которого (из девяти) остались верны дореферендумной Конституции. Но полномочия Президиума, по тому же Основному закону, ограничены. А собрать сессию с участием как минимум 99 человек Семену Шарецкому и его единомышленникам сегодня, конечно, не по силам.

И все же выход из сложившегося тупика есть, считает известный юрист Виктор Гончар:

— Верховный Совет 13 созыва избран на период до 2000 года. Да, 110 его членов перешли в Палату представителей, но тем самым они сложили с себя полномочия депутатов Верховного Совета. В соответствии с Основным законом, сложение полномочий одним либо же ста десятью депутатами никак не влияет на легитимность высшего законодательного органа, и после того законы и постановления принимаются большинством избранных депутатов. Когда их было 199, для принятия решения требовалось 99 голосов. Теперь же при 89 оставшихся вне Палаты представителей депутатах законы и постановления могут приниматься 45 голосами...

На последнюю цифру следует обратить особое внимание – в рабочем собрании депутатов, которое прошло 14 октября, участвовали 43 парламентария. Еще несколько не смогли приехать на него по болезни. Поэтому уже на следующее заседание Президиум Верховного Совета планирует собрать не менее пятидесяти человек. Таким образом, исключив из своих рядов 110 «палатников», ВС может получить возможность проводить полноценные сессии, принимать законы и постановления. Это, скорее всего, случится уже в ноябре. Семену Шарецкому поручено направить каждому из 199 депутатов письменный запрос с единственным вопросом: считаете Вы себя депутатом ВС 13 созыва или членом Палаты представителей?

Кое-кто в этой связи, правда, задает вопрос: а как же обеспечить кворум на ноябрьское заседание, то есть собрать на него 99 человек? «А этого вовсе и не нужно, — считает Виктор Гончар. – Норма статьи 7 закона «О Верховном Совете Республики Беларусь» о правомочности законодательного органа при избрании более двух третей депутатов – необходимое условие для начала его работы лишь при открытии первой сессии вновь избранного парламента. Конституционный Суд Республики Беларусь решением от 11 октября 1995 года указал, что на дальнейшую деятельность Верховного Совета эта норма не распространяется, законы и постановления принимаются большинством оставшихся в законодательном органе избранных в него депутатов. Проголосуют, к примеру, за тот или иной вопрос 45 депутатов – и решение законно».

По мнению Виктора Гончара, такое развитие событий будет «юридически безупречным». По его словам, он консультировался по этому вопросу с несколькими юристами высокой квалификации из стран ближнего и дальнего зарубежья, и все они нашли такой план юридически правомерным.

Вышеперечисленные юридические основания сохраняют за депутатским корпусом и право принимать конституционные решения, для которых требуется не менее 60 голосов. Исходя из такой логики, уже через месяц не будет правовых ограничений для такой, к примеру, процедуры, как объявление импичмента президенту.

Кстати, возможность этого обсуждалась 14 октября на собрании депутатов Верховного Совета 13 созыва во время рассмотрения заключения специальной комиссии по правовой оценке нарушений президентом Республики Беларусь Александром Лукашенко Конституции и законов. Члены комиссии во главе с ее председателем Виктором Гончаром предлагали принять постановление от имени Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, а президиум – от имени рабочего собрания депутатов Верховного Совета. Но постановление от имени собрания не имело бы юридической силы. Поскольку де-юре ВС 13-го созыва пока состоит из 198 депутатов, то постановление от имени ВС было бы неправомочно в силу отсутствия кворума. Компромисс нашли в виде Политического заявления от имени Верховного Совета, открытого для подписания всеми депутатами.

В заявлении – четыре пункта. В первом депутаты высказывают согласие с выводами, содержащимися в заключении специальной комиссии. Во втором – признают невозможным исполнение президентом Лукашенко своих обязанностей. В третьем – специальной комиссии предложено продолжить работу над подготовкой новых материалов. И в заключительном пункте Виктору Гончару поручается проинформировать общественность о результатах работы специальной комиссии. Правда, сам Гончар, оценивая принятое решение, назвал его лишь «маленьким шажком вперед».

*В. ГЛОД, (БелаПАН).*

☺ *ЭТО ИНТЕРЕСНО*

**ПОСМОТРИМ СО СТОРОНЫ!**

...Прообразом Митрофанушки для Фонвизина послужил 18-летний Алексей Оленин. Увидев себя на сцене, потрясенный Оленин бросил гонять голубей, отложил женитьбу, засел за учебу. В дальнейшем он закончил университет, был директором Петербургской академии художеств, опубликовал ряд научных работ.

Давайте посмотрим на себя со стороны!

## Для дома, для семьи, для души...

☺ *З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА*



*Разам з настаўніцай — першай і любімай...*

в. Любішчыцы Івацэвіцкага раёна.

☺ *ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ*

**СЕМЬ ПРАВИЛ, СОБЛЮДЕНИЕ КОТОРЫХ ПОЗВОЛИТ ВАШУ СЕМЕЙНУЮ ЖИЗНЬ СДЕЛАТЬ БОЛЕЕ СЧАСТЛИВОЙ**

*Правило 1.* Не нужно придираться.
*Правило 2.* Не пытайтесь переделать своего супруга.
*Правило 3.* Не критикуйте.
*Правило 4.* Выражайте друг другу вашу искреннюю признательность.
*Правило 5.* Оказывайте друг другу небольшие знаки внимания.
*Правило 6.* Будьте предупредительны.
*Правило 7.* Прочтите хорошую книгу о сексуальной стороне супружеской жизни

*Дейл КАРНЕГИ.*

☺ *ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ...*

## ЛЫСЫХ НЕ БУДЗЕ, МЕРЦВЯКІ АЖЫВУЦЬ

***На паліцах амерыканскіх кнігарняў з'явілася даволі цікавае выданне. Напісалі гэты не зусім строга навуковы твор навукоўцы Брэд Ўінерс і Дэвід Пект. Амерыканскія даследчыкі вырашылі прадказаць, з якімі адкрыццямі ў галіне навукі і тэхнікі сутыкнецца чалавецтва на працягу наступных 50 гадоў.***

Што ж нас чакае ў недалёкай будучыні? Ужо ў наступным годзе, абяцаюць дасужыя амерыканцы, у камп'ютэрнай сістэме Інтэрнэт з'явяцца "кібернетычныя грошы", і можна будзе набываць рэчы, не пакідаючы свайго любімага камп'ютэра ні на хвіліну. Праўда, пра дастаўку пакупак праз той самы Інтэрнэт гаворка пакуль не ідзе.

Добрая навіна для донжуанаў: праз 2 гады будзе створаная таблетка-контрацэптыў для мужчын, якая канчаткова вырашыць праблему непажаданай цяжарнасці.

У самым пачатку тысячагоддзя, у 2001 годзе, арганізуецца глабальная сетка мабільных тэлефонаў. Традыцыйныя апараты патроху знікнуць зусім, і фраза кшталту "Ленін на дроце" канчаткова згубіць свой сэнс і будзе ўспрымацца, як недарэчны жарт. А яшчэ праз два гады Зямлю акружыць сетка відэатэлефонаў.

У 2020 адбудзецца высадка чалавека на Марс. Мяркуючы па сённяшнім становішчы расійскай касманаўтыкі, хутчэй за ўсё гэта зноў будзе амерыканец (як і ў выпадку з Месяцам). Як бы там ні было, але падрыхтоўчыя працы да палёту касманаўтаў на Марс амерыканскае агенцтва NASA вядзе ўжо сёння.

Выдатныя дасягненні павінны адбыцца і ў медыцыне. У 2002 годзе чалавецтва зможа ўздыхнуць з палёгкай: навукоўцы распрацуюць прышчэпку супраць "чумы дваццатага стагоддзя" — СНІДу. У 2006 годзе будуць знойдзены — нарэшце! — эфектыўныя сродкі супраць аблысення. У 2010 пачнуць працаваць робаты-"хірургі" велічынёй з таблетку: хворы яе праглыне — і аперацыя пройдзе з дапамогай пульта дыстанцыйнага кіравання. Самае нечаканае ў медыцыне амерыканскія прадказальнікі прагназуюць на 2043 год: па іхніх разліках, у гэтым годзе ўпершыню ажывяць нябожчыка.

А ў 2044 годзе будуць створаныя робаты, якія змогуць самастойна размнажацца. Пасля гэтага, відаць, людзям ужо не спатрэбяцца ні контрацэптывы, ні ласьёны ад аблысення...

*Р. ПЕРМЯКОЎ.*

ДЗЯРЖАВА І МЫ

*У сярэдзіне кастрычніка г. г. вызвалены ад займаемай пасады Васіль Старавойтаў — легендарны старшыня закрытага акцыянернага таварыства АПК «Рассвет», былога вядомага на ўвесь Саюз калгаса «Рассвет» імя К. Арлоўскага. Арыштаваны зяць Старавойтава і некаторыя адказныя асобы, што кіравалі структурамі акцыянернага таварыства.*

*Сёння, пасля вобыскаў і допытаў, зняслаўлены і зняважаны В. Старавойтаў сядзіць у сваім доме ў вёсцы Мышкавічы. Баіцца правакацыяў.*

# Васіль Старавойтаў: За дзяржаву крыўдна!

**— Васіль Канстанцінавіч, ды што ўсё ж адбылося?**

— Я ж не чуў славутага выступлення прэзідэнта перад дэпутатамі, у якім гаворка ішла пра мяне з-за несабранага ўраджаю з поля і «дрэннага» бухгалтарскага ўліку... Я потым удакладніў: сапраўды, у нас ёсць шматгадовая паша, дзе заўсёды пасвілі кароў. І вось аграномы вырашылі яе аднавіць, пасеяўшы травы і жыта. Травы падняліся моцна, а жыта не вельмі. Вось яго своечасова і не сабралі.

Такое, наколькі я ведаю, бывала нават і ў Шклоўскім саўгасе «Гарадзец», якім у свой час кіраваў Лукашэнка. Такога наогул вакол скольki заўгодна. Больш таго — штогод акціруюцца сотні гектараў несабранага збожжа! Гэта значыць, своечасова няскошанае ці не страўленае жывёле поле камасумесі — не самая вялікая праблема ў сельскай гаспадарцы рэспублікі.

Па-другое, сачыць за своечасовай уборкай — абавязак брыгадзіра, у распараджэнні якога ёсць людзі, восем камбайнаў, урэшце ёсць аграном, выканаўчы дырэктар, мой першы намеснік, які курыруе сельскую гаспадарку... Аднак на ўсю рэспубліку гучыць каманда выгнаць з працы Старавойтава!

Мабыць, з пункту погляду прэзідэнта правільна лезці ў кожную дробязь, не давяраючы нікому, акрамя сябе. Але я працую інакш і ўпэўнены, што раблю правільна.

**— І што было пасля каманды «выгнать с работы немедленно»?**

— Вы ведаеце, усё пачалося яшчэ да каманды. Ці проста яна аддадзена раней, а толькі агучана на сустрэчы з дэпутатамі.

У нас жа ўвесь апошні час сядзелі людзі з камітэту дзяржкантроля, падатковай службы. Яны паведамілі, што паступіла пісьмо: у «Рассвеце» крадуць.

Але я ніколі нікога не баяўся. Правярайце, памылкі можаце знайсці, а злодзеяў — не знойдзеце.

Доўга правяралі. У тым ліку, напрыклад, цяпліцу. Там тысячы тон гародніны, не хапіла пры праверцы толькі 800 кілаграмаў.

**— А хоць адзін акт вам прадставілі?**

— Ніводнага акту я не бачыў. Калі б хоць штосьці знайшлі, то не замарудзілі б з актамі!

Праўда, праблему адну знайшлі. Нашы затраты, скажам, на харчаванне трактарыстаў, на пахаванне вяскоўцаў, скажам, матэрыяльную дапамогу... Усё гэта дзесяткамі гадоў адносілі на агульныя затраты. Яны гавораць: няправільна, трэба на прыбытак. Як жа, кажу, мы 70 гадоў так рабілі, усе нас правяралі, і ніхто нічога не казаў. Сказалі б раней, што так не трэба, я б не рабіў так...

Вось вам і «дрэнны ўлік» з прэзідэнцкага выступлення!

Дрэнны ўлік... У калгасе свой банк, які працуе па ліцэнзіі, 17 камп'ютараў з мадэмам — знайдзіце яшчэ такі ўлік! Ды ў палове калгасаў рэспублікі бухгалтары яшчэ на лічыльніках ляпаюць!

**— А потым што было?**

— А потым было самае страшнае. У пятніцу вечарам я сяджу дома, вось тут, дзе мы з вамі сядзім. Пяць машын спыняюцца ля брамы, людзі выходзяць незнаёмыя... Я падумаў, што гэта рэкеціры! Прыехалі з «багатага» Старавойтава грошы выбіваць!

У мяне ж слава ведаеце якая...

Званю быламу нашаму ўчастковаму: «Падыдзіце, калі ласка, паглядзіце, што за людзі ля маёй брамы!» Ён прыйшоў, пагаварыў з імі, потым тэлефануе: «Міліцыя гэта». Тады я іх упусціў.

А тым часам, аказваецца, усё ў Мышкавічах ачапілі, перакрылі дарогі, аўтаматчыкі якіясьці ходзяць...

Усё было, у партызанах пад кулямі хадзіў, ад смерці быў на валаску, блізкіх фашысты забілі... А такога не перажываў.

Але галоўная ганьба была наперадзе. Да мяне ў дом прыйшло чалавек 15. Паказалі ордэр... Я іх усіх не ведаю, але, калі ласка, шукайце... Ну што ў мяне можна знайсці? Ёсць адзенне, абутак, паляўнічыя ружжы... 1200 даляраў, чатыры мільёны «зайцаў», 180 грывень украінскіх. Усё, больш нічога няма...

— Пакажыце зброю!

— Калі ласка, глядзіце.

— Пасведчанні ёсць?

— Вось пасведчанні.

У зяця майго не было — яго арыштавалі. Думаю, каб не было патрэбных дакументаў у мяне — зрабілі б тое самае і са мной. Пагледзелі ружжы, потым забралі... Напісалі, што аддаў добраахвотна. Ну, дзякуй ім хоць за гэта. Потым пайшлі ў падвал, хлеў, гараж... Усё перарылі, як у бандыта...

У Наташы, дачкі, таксама быў вобыск. Ведаеце, забралі завушніцу адну — другой не знайшлі. Згубіла. Забралі кальцо, якое ёй падарылі на вяселлі!

Гэта ўжо не ведаю як і назваць. Сталін такога не рабіў. А цяпер робяць!

З той пятніцы я не выходжу з дому. Не выходжу. Баюся правакацыяў.

**— Мабыць, дарэмна?**

— Не, не дарэмна. Вы ведаеце, яны прыйшлі да майго вадзіцеля, патрабавалі ключы ад маёй машыны. Той сказаў: «Не аддам!» Яго збілі палкамі і кудысьці адвезлі. Жонка да гэтай пары не ведае, дзе чалавек. Магілёўскае тэлебачанне тройчы перадало, што я арыштаваны. Людзям гавораць, што ў мяне 36 мільярдаў грошай. Божа мой, якая хлусня! 170 мільёнаў у нашым банку — вось усё, што я скапіў за столькі гадоў катаржнай працы! 30 гадоў у «Рассвеце», перад гэтым — 11 гадоў дырэктарам саўгаса... Любы дзяржаўны чыноўнік на хабарах збірае больш! А я ўсё жыццё на вытворчасці. Што мне, голым быць? Вы не можаце сабе ўявіць, які гэта жах! Славяне не бачылі такога дзікунства, якое адбываецца цяпер у нашай дзяржаве! Я ж ужо хацеў ісці на пенсію. Рыхтаваў сабе замену, працаваў толькі палову дня. Займаўся пытаннямі перспектывы... І вось дачакаўся...

**— Але чаму ўсё гэта адбываецца? Мабыць, сапраўды ёсць інфармацыя аб крадзяжах?**

— Я паўтараю, што крадзяжу ў «Рассвеце» няма. Крымінальная справа закрыецца дакладна так, як адкрылася. Тут усё проста: са мной зводзяць рахункі за выбары, калі «Рассвет» і я асабіста прагаласавалі супраць Лукашэнкі.

Акрамя таго, «Рассвет» жа — смачны кавалак. Тут ёсць усё: развітая вытворчасць, палац, лазні з масажысткамі, басейн, гародніна, мінеральная вада, пашыў адзення і абутку...

Словам, смачны кавалачак. А хто ў нас у рэспубліцы галоўны спецыяліст па смачных кавалачках? Упраўленне справамі прэзідэнта. Там ведаюць, што Старавойтаў «Рассвет» проста так не аддасць. Значыць, трэба яго зламаць, зняважыць і выгнаць.

Думаю, што тут ёсць і яшчэ адзін фактар. Наша гаспадарка — прыклад правядзення рэформаў, заснаваных на прынцыпе эканамічнай свабоды. А ніякай свабоды ў Беларусі нікому дазволена быць не можа... І гэтак далей.

**— Але вас знялі з работы незаконна. Павінна быць хаця б рашэнне сходу акцыянераў...**

— Заўсёды ў калгасах здымалі і прызначалі незаконна. Але раней хоць людзей сабіралі, каб яны рукі паднялі. А зараз няма нават гэтага. Не, канешне, людзей потым сабяруць. Але неабходна падрыхтаваць глебу, трэба выліць на мяне як найбольш бруду...

Трэба знайсці прыдатных людзей — і іх знойдуць. Я ж за 30 гадоў працы кагосьці ж пакрыўдзіў, камусьці рабіў непрыемнасці... Знойдуць.

**— А члены калектыву, тыя самыя ўласнікі, якіх вы стваралі, стануць на вашу абарону?**

— У гаспадарцы з 2011 акцыянераў знойдзецца нямала ўласнікаў, якім усё роўна. Але асноўныя ўладальнікі акцыяў — такіх каля паўсотні чалавек — стануць на маю абарону. Хаця таксама баяцца звядзення рахункаў. Гэта ў вас там у гарадах народ абстраляны, дубінкамі біты і да ўсяго прызвычаены. У вёсцы начальства баяцца больш.

Ды і ўжо зараз пра мяне надта многа нагаварылі непрыемнасцяў. І людзі пачынаюць верыць, што я прахвост.

**— Ці могуць падзеі ў «Рассвеце» азначаць канец рэформам сялянскай Беларусі?**

— Напэўна, з пахаваннем «Рассвета» будуць пахаваныя і рэформы, паколькі рэальна яны былі толькі ў нас. Аднак гэтыя з'явы толькі на некаторы час.

**— На які?**

— Ненадоўга. Усё ж мы не ў Паўночнай Карэі жывём, у цэнтры Еўропы. Ні Захад, ні Расія нам не дазволяць...

**— Як вы лічыце, якая частка корпусу старшыняў рэспублікі вас падтрымае?**

— Напэўна, палова падтрымае. Але не ўслых. Услых пабаяцца — жыць хочуць. Але палова ўжо прыняла рэформы.

**— Васіль Канстанцінавіч, вам, двойчы Герою Сацыялістычнай працы, абавязковаму ўдзельніку самых прэстыжных саюзных форумаў, не раз прыходзілася з высокіх трыбун звяртацца да самай шырокай аўдыторыі, уключаючы кіраўнікоў дзяржаваў. Калі б вы зараз атрымалі такую трыбуну, што вы сказалі б?**

— Я б прасіў, каб хто-небудзь сказаў за мяне слова. Барыс Мікалаевіч Ельцын, прэзідэнт Расіі... Ён выратаваў Шарамета. Няхай бы мне дапамаглі. Каб я мог з дому выходзіць...

Не хачу пакідаць калгас зняслаўленым!

Я ведаю, што Лукашэнка будзе мне помсціць. Але надзеі на чыю-небудзь дапамогу ў мяне вельмі мала.

**— А «Рассвет» «ляжа» без вас?**

— Сённяшні «Рассвет» не так проста разбурыць. Гэта трывалы механізм, і ён будзе працаваць.

Вось з акцыянаваннем...

Па маёй інфармацыі, чыноўнікі хочуць прызнаць яго незаконным. Мы ж рабілі статут, калі не было яшчэ адпаведнага закона. Тады нас зарэгістравалі і абяцалі падтрымку. Цяпер, калі трэба прыбраць «Рассвет» да рук, напэўна, будуць выкарыстоўваць гэты повад.

*Гутарыў Анатоль ГУЛЯЕЎ.*

ДА ЎВАГІ ПАЛЯЎНІЧЫХ

# ВЫЙШАЎ ЗАЙЧЫК ПАГУЛЯЦЬ...

***Міністэрства лясной гаспадаркі выдала загад аб дазволе асенне-зімовага палявання ў адкрытых для гэтых мэт угоддзях на пушных звяроў: зайца, лісіцу, вавёрку, куніцу, янотападобную сабаку, тхара, норку, гарнастая. Вызначаны тэрміны — з 1 лістапада 1997 года па 25 студзеня 1998 года.***

Паляваць можна ў суботу, нядзелю і ў святочныя дні. Івацэвіцкай і Целяханскай паляўнічым гаспадаркам, Баранавіцкаму таварыству паляўнічых і рыбаловаў дадзена права дазваляць асенне-зімовае паляванне ва ўсе дні тыдня.

Дазволены адстрэл лісіц падчас правядзення палявання на ваўкоў са сцяжкамі да 8 сакавіка 1998 года.

Забаронена паляванне з ганчакамі на зайцоў і лісіц у масівах, якія з'яўляюцца асноўнымі зімовымі месцамі жыхарства ласёў, аленяў, дзікоў і казуляў. Падчас палявання нельга карыстацца наразной зброяй (акрамя ружжаў ІЖ-56 «Вавёрка»), а таксама насіць патроны з пулямі і карцеччу дыяметрам больш за 6,5 міліметра.

За дзень аднаму паляўнічаму дазволена застрэліць не больш як два зайцы. Здабыча іншых відаў пушных звяроў не абмежавана.

На працягу сезона палявання дазваляецца весці адстрэл ваўкоў, бадзяжных беспародных сабак і катоў, а таксама шэрых варон і сарок.

Усім грамадзянам паўсюдна на працягу года (за выключэннем перыяду з 1 красавіка па 1 ліпеня) можна паляваць на крата.

Здабытая дзічына абавязкова павінна прайсці радыеметрычны кантроль.

## САРДЭЧНА ВІНШУЕМ

*Ад усяго сэрца віншуем з юбілеямі дарагіх для нас людзей:*

*Лідзію Аляксандраўну ПАРХОМІК (в. Стайкі) – з 65-годдзем і Паўла Іванавіча СУХАНОСІКА (г. Івацэвічы) – з 40-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, сямейнага дабрабыту. Хай сонца заўсёды дорыць Вам цеплыню, людзі – дабрыню, а жыццё – шчасце.*

*Прибавляется год – не беда,*
*В этом жизни секрет заключается.*
*Молодыми будьте всегда,*
*Даже если года прибавляются.*
*Пусть же люди судят о Вас*
*Не по дате в годах рождения,*
*А по блеску веселых глаз,*
*По хорошему настроению.*
*Потому что задор молодой*
*Никогда-никогда не кончается.*
*Счастлив тот, кто молод душой.*
*Ну а годы пускай прибавляются.*

*З павагай і любоўю – дачка і жонка Галіна, яе дочкі Юлія і Кацярына.*



Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 3 лістапада ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: 225250, г.Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя "Газеты для вас".
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.



Тыраж 1500
Заказ 2621.